ГАЗЕТА НАШАГА ГОРАДА




РЕГИОН
# Вести

№ 48 (220) 20 - 26 лістапада 2003 г. Кошт 370 рублёў.

# У горадзе – вірус шаленства



У горадзе выяўлены вірус шаленства. Гарадская ветырынарная станцыя паведамляе, што ўсім уладальнікам сабак і кошак неабходна прадастаўляць жывёлаў на выкцынацыю.

Пазапланавая вакцынацыя арганізуецца 20, 21 лістапада (з 14 да 18 гадзін) і 22 лістапада (з 8 да 17 гадзін) ў ветэрынарнай станцыі (Паркавы завулак, д. 7 – праезд аўтобусамі да прыпынку "Вакзал"). Планавыя выкцынацыі праводзяцца ў ветырынарнай станцыі кожную суботу з 8 да 17 гадзін. Прышчэпка ад шаленства дзейнічае 1 год, таму ўсіх сабак і кошак неабходна прадастаўляць на прышчэпку рэгулярна – раз на 12 месяцаў. Вакцынацыі праводзіцца бясплатна.

Шаленства (водабаязнь, гідрафобія) – гэта інфекцыйнае вірускае захворванне чалавека і жывёлаў. Вірус шаленства пастаянна існуе ў прыродзе. Ён перадаецца толькі праз цеплакроўных жывёлаў, у асноўным праз драпежнікаў (звычайна – у ваўкоў і ліс). З хатніх жывёлаў часцей за ўсё сустракаецца ў сабак і кошак.

2Асноўная небяспека шаленства заключаецца ў тым, што гэтае захворванне невылечнае ў сваёй клінічнай стадыі. Існуе 2 надзейныя сродкі барацьбы з хваробай. Першы – рэгулярная прафілактычная вакцынацыя хатніх жывёлаў. Другі - неадкладныя прышчэпкі людзей, якія падвергліся небяспецы інфіцыравання.

Галоўны ветырынарны ўрач гораду Міхаіл Краўчанка у гутарцы з прадстаўніком газеты патлумачыў, што вакцынацыю павінны рэгулярна праходзіць усе сабакі і кошкі – у тым ліку кошкі, якія пастаянна жывуць у кватэры. Вірус шаленства перадаецца праз слюну – не толькі ў выніку

(Окончание на стр. 2.)

### Покупай наше!

Правительство по согласованию с министерством торговли и Белкоопсоюзом обязало торговые предприятия иметь в общем розничном товарообороте не менее 70 процентов товаров отечественного производства.

### Только 5%

Почти за год, прошедший после принятого в Беларуси нового Закона «О свободе совести и религиозных организациях», в Гомельской области перерегистрировались менее пяти процентов религиозных общин. Президиум областного Совета обязал местные органы власти ускорить перерегистрацию.

### Ждите, педагоги!

По данным Белорусского профсоюза работников образования и науки, постоянно более 20 тысяч педагогов нуждаются в улучшении жилищных условий. И только около 10 процентов из них ежегодно разрешают свою жилищную проблему.

### Число растет

Официально в Беларуси зарегистрировано 5277 ВИЧ-инфицированных, то есть 54 человека на 100 тысяч населения. В то же время медики считают, что в реальности эта цифра значительно больше: можно смело умножать в 7, а то и 10 раз.

### Учите «Основы...»

Учебная дисциплина «Основы государственной идеологии» станет обязательной во всех вузах Беларуси со второго семестра текущего учебного года. А к началу 2004 года в стране появятся и учебники по этому курсу.

# Хотят дружить с коллегами

**В Светлогорском лесхозе большинство руководящих должностей занимают представительницы прекрасного пола, которые активны в работе и в общественной жизни.**



Одна из последних идей – вступить в Международную организацию женщин-лесоводов – нашла в коллективе поддержку.

Немного истории. Пять лет назад женщины Норвегии получили право наследовать леса, и для привлечения девушек в лесные школы и грамотного ведения лесоводства было создано новое движение. В скором времени оно получило признание во всем мире. К нему активно подключились представительницы Швеции и США. Ирина Чечулина, заместитель директора по идеологической работе Светлогорского лесхоза, говорит, что к светлогорским девчатам уже присоединились активистки Мозырского лесхоза. Инициатива нашла поддержку и у Валентины Супрун, начальника отдела лесного хозяйства и лесовосстановления Гомельского ПЛХО.

Связались по Интернету с Международной организацией женщин-лесоводов. В планах – оформить и зарегистрировать свою общественную организацию.

Основная задача движения – воспитание у детей и молодежи любви к лесу, бережного отношения к природе. Ближайшая перспектива – налаживание контактов с коллегами Брянщины и Черниговщины.

«Главное для нас – общение с женщинами-лесоводами других стран, - говорит Ирина Чечулина. – Пусть приезжают, познакомимся. Драников на всех хватит!».

Раиса МШАР

# Горячие белорусские парни

**В бытовке одного из цехов Светлогорского ЦКК перед началом смены буквально на пустом месте возникла ссора между двумя работягами.**

В пылу «обмена мнениями» один обозвал другого словом, обозначающим рогатое домашнее животное, после чего хлопцы схватились за грудки. Рукопашного боя одному из участников показалось недостаточно, и он выхватил нож. Удара в живот было достаточно для окончания еще не начавшегося рабочего дня двух работников. Пострадавшего увезли в больницу, виновного – в милицию.

За умышленное причинение тяжкого телесного повреждения, опасного для жизни, 30-летний Александр Ярошенко по приговору суда Светлогорского района изолирован от общества в колонии усиленного режима на четыре года. С него в пользу потерпевшего взыскано шестьсот тысяч рублей в возмещение причиненного морального вреда. За лечение пострадавшего в больнице осужденный выплатит территориальному медобъединению 250 тысяч рублей.

Видимо, руководителям предприятия стоит обратить самое пристальное внимание на дисциплину своих подчиненных. А то не далеко и до беды!!!

Валерий КОЗУБОВ

Актуально

# «Хватит быть добренькими»

**Экономия, бережливость и отказ от льгот отнюдь не всегда были знаменем государственной социальной политики. Еще два с половиной года назад президент собственноручно издавал указы, предоставляющие отдельным категориям граждан просто немыслимые льготы, вплоть до права бесплатного проезда по всей территории Беларуси.**

В августе 2001г. предоставление льгот на проезд студентам и учащимся средних специальных учебных заведений было оформлено не постановлением правительства, и даже не законом, а непосредственно указом президента. И это несмотря на то, что из уст главы государства уже тогда звучало мнение, что льготы - бич для белорусской экономики. Когда до «элегантной победы» оставалось больше месяца, президент подмечал, что «теми или иными послаблениями пользуются около 5 млн. человек - примерно половина населения страны». Но выборы - пора, когда об экономике думать не принято.

Естественно, президент не мог написать в мотивировочной части указа, что разрешил бесплатный проезд в электричках, автобусах регулярных пригородных и междугородных маршрутов и даже в плацкартных вагонах поездов внутреннего сообщения для того, чтобы за него проголосовала традиционно оппозиционно настроенная молодежь. Как сообщила тогда пресс-служба, льготы были предоставлены «в целях создания условий для оказания помощи в уборке урожая 2001г.». Это объяснение обескуражило: жатва шла уже давно, а льготы почему-то предоставили аккурат накануне выборов.

**«Мы же налево и направо раздаем»**

Но вот «элегантная победа» случилась, льготы на проезд по выходным отменили, и белорусский президент вновь принялся затягивать нам пояса. 12 февраля 2002 г., спустя несколько месяцев после инаугурации, он посвятил теме урезания льгот и преференций свою гневную речь. Выступая на заседании Совмина по итогам развития

(Окончание на стр. 4.)

# Творчасць пяці мастакоў гораду

## прадстаўлена на калектыўнай выставе

**Выстава называецца "Восеньскі вернісаж" і дэманструецца у Дзіцячай мастацкай школе нашага гораду.**



*На здымку: у малай выставачнай зале мастацкай школы. Тут - працы навучэнцаў школы.*

Свае карціны прадставілі Віктар Баранаў, Фёдар Пішчала, Уладзімір Юшпрах, а таксама Мікалай Кухарэнка і Анатоль Сідоранка (якія з'яўляюцца выкладчыкамі гэтай школы). Вернісаж арганізаваны ў вялікай выставачнай зале школы.

У экспазіцыі выставы пераважае пейзажны жывапіс. Выстаўлены таксама нацюрморты, партрэты. Выстава прадоўжыцца прыкладна да канца гэтага года.

Тэльман МАСЛЮКОЎ

# Прызыўнікі з нашага раёну

## будуць служыць у 7 вайсковых частках

**У гутарцы з прадстаўніком газеты падпалкоўнік Уладзімір Шаўчэнка – начальнік аддзялення прызыву раённага ваеннага камісарыяту – паведаміў наступныя дакладныя звесткі.**

У кастрычніку - лістападзе ў нашым раёне прайшлі медыцынскае асведчанне 287 грамадзян, якія падлягалі прызыву. З іх 50 па стане здароўя прызнаныя негоднымі да вайсковай службы, 13 - часова негоднымі, 95 накіраваныя на дапаўняльнае медыцынскае абследванне. Годнымі да службы прызнаныя 129 чалавек.





*10 лістапада пачалася праца прызыўной камісіі. На здымках: злева – прызыўная камісія; справа – прызыўнікі чакаюць выкліку на камісію. Праз 2 месяцы гэтыя хлопцы пачнуць службу ў войску.*

**Згодна плану, у гэтым прызыве** на сапраўдную тэрміновую службу з нашага раёну павінен быць адпраўлены 121 прызыўнік. Гэта значыць - меньш, чым прызнана годнымі да службы. Таму 8 юнакоў будуць адразу залічаныя на службу ў рэзерве (хто канкрэтна – вырашыць прызыўная камісія).

Са 121 прызыўніка, якія будуць адпраўленыя на сапраўдную тэрміновую службу, 61 юнак будзе накіраваны ва Узброеныя Сілы, прычым усе 61 – у Сухапутныя войскі. Гэтыя хлопцы будуць размеркаваны наступным чынам. Па 20 прызыўнікоў накіруюцца ў вучэбную частку ў г. Барысаў (Мінская вобл.), у 5-ую асобную брыгаду спецыяльнага прызначэння (г. Мар'іна Горка, Мінская вобл.) і ў 38-ую асобную брыгаду мабільных сіл (г. Брэст). І адзін прызыўнік будзе адпраўлены ў ваенна-інжынерны полк (Давыд-Гарадоцкі раён, Брэсцкая вобл.).

**Далей за ўсіх будуць служыць хлопцы, якія прызываюцца ў пагранічныя войскі**

**Акрамя Узброеных Сіл,** прызыўнікі з нашага раёну будуць служыць у войсках Міністэрства ўнутраных спраў, у пагранічных і ў чыгуначных войсках. У войскі МУС будуць адпраўленыя 10 юнакоў – у асобную брыгаду міліцыі (г. Гомель). У памежныя (Смаргонскі раён, Гродзенская вобл.) і чыгуначныя (Слуцкі раён, Мінская вобл.) – па 25 хлопцаў.

Сапраўдная служба ў любым родзе войск патрэбная для краіны і з'яўляецца гонарам для мужчыны, падкрэсліў У. Шаўчэнка. Размеркаванне прызыўнікоў па вайсковых частках праводзіцца прызыўной камісіяй паводле маральна-дзелавых якасцяў прызыўнікоў (адукацыя, спецыяльнасць, характарыстыкі з месца вучобы ці працы і г. д.), і па стане іх здароўя і фізічнай падрыхтоўкі. Па меры магчымасці ўлічваюцца і асабістыя пажаданні юнакоў. Адпраўкі прызыўнікоў у войскі запланаваны на студзень 2004 г.

**На жаль, здараюцца** і асобныя выпадкі ўхілення некаторых грамадзян ад з'яўлення ў ваенны камісарыят, ад прызыву – адзначыў У. Шаўчэнка. Асноўная прычына гэтага, на меркаванне падпалкоўніка – тое, што некаторыя маладыя людзі лічаць службу не абавязковай для сябе, спадзяючыся на тое, што служыць за іх павінен хтосці іншы. Цяпер у Беларусі прызыўнікоў больш, чым месц у войску. Таму важна не колькасць, а якасць прызыўнога кантынгенту. Аднак ухіляцца ад прызыву ніхто не павінен. Ухіленне прыводзіць да адказнасці, і тыя, хто ўхіляюцца, усё роўна будуць прызваныя – але, як правіла, на пасады, не звязаныя са зброяй ці баявой тэхнікай (у абслуговы персанал). Амаль усе выпадкі ўхілення ад службы – сярод гарадскіх юнакоў. Калі хтосці з сельскіх хлопцаў не з'яўляецца на прызыў, то гэта, як правіла, юнакі з вельмі малазабяспечаных сямей: бывае, што ў іх няма грошай нават на тое, каб даехаць з вёскі да ваенкамата – адзначыў У. Шаўчэнка.

Прадстаўнікі рэдакцыі правялі апытанне некалькіх грамадзян, якія праходзілі каля ваенкамата, аб іх стаўленні да прызыву. Вынікі апытання чытайце на с. 3. Супрацоўнікі газеты маюць намер наведаць некаторыя з вайсковых частак, дзе давядзецца служыць хлопцам з нашага раёну. Сачыце за наступнымі выпускамі газеты – будзе матэрыял аб гэтых частках.

У адным з наступных нумароў будзе таксама апублікавана інтэрвію з нашым маладым земляком, якога вайсковая служба занесла ў далёкія краіны.

Тэльман МАСЛЮКОЎ

# У горадзе – вірус шаленства

(Окончание. Начало на стр. 1.)

ўкусаў альбо драпін, але і пры аблізванні! Дастаткова кошке пабыць нават некалькі хвілін не ў доме, альбо уступіць у кантакт з іншай жывёлай, якую хтосці прынёс у Ваш дом – і ўзнікае небяспека інфіцыравання.

**Чалавеку вірус шаленства перадаецца** звычайна ў выніку ўкусу альбо праз кіпцюры жывёлы. Небяспечны не толькі раны, але нават і невялікія, незаўважныя для глаза драпінкі, нанесеныя зубамі ці кіпцюрамі жывёлы. Як правіла, кусаюцца менавіта шалёныя жывёлы. Што рабіць, калі вас укусіла ці абдрапала жывёла? Неабходна адразу прамыць гэта месца цёплай вадой з мылам ці растворам марганцова-кіслага калія і затым заліць ёдам – гэта зменшыць колькасць вірусу, які можа патрапіць у арганізм. Затым неадкладна звярнуцца ў бліжэйшую медыцынскую установу! Чалавеку ў такім выпадку прызначаецца курс прышчэпак, якія надзейна прадухіляюць захворванне. Калі жывёла, якая пакусала Вас, хатняя – трэба неадкладна прадаставіць яе ў ветэрынарную станцыю для назірання.



*На здымку: гарадская ветэрынарная станцыя сустрэла небяспеку вірусу напагатове. Далейшае залежыць ад свядомасці ўладальнікаў сабак і кошак.*

Калі жывёла захварэла на шаленства, то прыкметы хваробы праяўляюцца праз 3 – 6 тыдняў пасля заражэння: вялаcць, раздражненне, пуглівасць, нетыпічныя паводзіны... У такім выпадку неабходна неадкладна прадаставіць яе ў ветэрынарную станцыю.

**Аднак М. Краўчанка звяртае ўвагу чытачоў** газеты таксама на тое, што ў апошнія гады ў жывёлаў нярэдка сустракаецца ціхая (атыпічная) форма шаленства. Гэта значыць, што прыкметы хваробы выражаны неясна, людзі не заўважаюць іх і не прадпрымаюць мераў перасцярогі, у выніку чаго вірус можа быць перададзены чалавеку. Вось чаму вельмі важна рэгулярна вакцыніраваць жывёлаў.

З пачатку году гарадская ветэрынарная станцыя здейсніла 2406 амбулаторных прыёмаў жывёлаў. Станцыя не робіць амбулаторны прыём сабак і кошак, якія не прышчэпленыя ад шаленства - таму ўладальнікам жывёлаў варта своечасова паклапаціцца аб гэтым. Дапаўняльную інфармацыю можна атрымаць у ветэрынарнай станцыі па **тэл. 2 06 77.**

Аляксей КРАЙЦОЎ

# Першынства вобласці і рэспубліканскі турнір

## па таэквандо праведзены ў нашым горадзе

**14 – 16 лістапада ў манежы стадыёна «Хімік» і ў спартыўным комплексе Цэлюлозна-кардоннага камбінату праводзіліся адразу 2 дзіцяча-юнацкіх спаборніцтвы па таэквандо.**



*На здымку: у час спаборніцтваў юныя спартсмены нашага гораду паказалі добрую тэхнічную падрыхтоўку.*

Адно з іх – адкрыты рэспубліканскі турнір, у якім былі прадстаўлены 2 ўзроставыя групы: дзяўчынкі і хлопчыкі 1994 – 96 гадоў нараджэння і падлеткі 1991 – 93 гг. нараджэння. Другое – адкрытае першынства Гомельскай вобласці сярод дзяўчын і юнакоў 1987 – 90 гг. нараджэння.

- Агульная колькасць удзельнікаў абодвух турніраў – 270 спартсменаў – паведаміў прадстаўніку газеты галоўны суддзя спаборніцтваў **Юрый Курачкін**. – Гомельскую вобласць прадстаўляюць каманды са Жлобіна, Мазыра, Петрыкава, з нашага гораду - каманды дзіцяча-юнацкіх спартыўных школ № 1 і «Хімік». Прыехалі таксама каманды з Брэсцкай (г. Брэст), Гродзенскай (г. Ліда), Мінскай (г. Салігорск) абласцей і з г. Мінска. Спаборніцтвы праводзяцца па асабістаму заліку. Усе каманды маюць дастаткова высокі ўзровень падрыхтоўкі.

Больш падрабязная інфармацыя аб турнірах – на с. 6.

Тэльман МАСЛЮКОЎ



# А судьи кто?

**«МАПИД» (Минск) – “ЦКК” – 3:1.**

**Гол у ЦКК: Павел Шелухин.**

Встреча наших футболистов с обладателем Кубка страны и Суперкубка, да еще в гостях, ничего хорошего не сулила. Но можно было побороться за победу в честном поединке. Такового, к сожалению не получилось. По словам очевидцев, арбитры матча были явно предрасположены к хозяевам. К тому же наша команда выехала на игру в ослабленном составе: Метлушко, Лопатин и Войтехович участвовали в первенстве области среди нефтяников.

Первый тайм светлогорцы гордо продержались – 0:0. А во второй половине игры даже первыми праздновали победу: неутомимый Павел Шелухин открыл счет. Но дальше все пошло по сценарию судей: забив три мяча в ворота гостей, минчане одержали верх.

Свой очередной матч “ЦКК” проведет в ближайшее воскресенье, в 14.00 в спорткомлексе ЦКК. И на это раз соперник нам достался не из легких: чемпион страны «Дорожник» из Фаниполя. В его составе пять футболистов сборной Беларуси, которая на днях выиграла престижный международный турнир в Литве.

Игорь МИХЕЕНКО

# Падпішыся на 2004 год

## Працягваецца падпіска на газеты і часопісы на І-ае паўгоддзе 2004 г.

Навіны палітыкі і культуры, падзеі і здарэнні ў нашым раёне, актуальная інфармацыя – ўсё гэта Вы можаце прачытаць кожны тыдзень у газеце “Рэгіён-весткі”.

Падпіску на газету “Рэгіён-весткі” Вы можаце аформіць ва ўсіх аддзяленнях паштовай сувязі.

## УЛИЧНЫЙ ОПРОС

**Нужна ли служба в армии по призыву?**



**Золотухин Игорь Викторович:**
- Как вам сказать. Мне кажется, это должно быть добровольно, пусть кто хочет, тот и служит.



**Антон, 15 лет:**
- Я бы хотел служить, когда возраст подойдет. Там, в армии, хорошая подготовка, которая пригодится в жизни.



**Сергей:**
- Не знаю, думаю, будет лучше, если служить по желанию. Сам бы хотел служить.



**Пятро:**
- Да, конечно. Нужно Родину защищать. Там становятся настоящими мужчинами. Я сам служил, и не жалею. Все, что говорят о трудностях в армии, о неуставных взаимоотношениях - не помеха службе. Нормальному хлопцу это не страшно.



**Валентина Ивановна:**
- Да, такая служба нужна. Нужно, чтобы кто-нибудь защищал нас.



**Демьяненко Михаил:**
- Ну да, каждый должен служить. Это и для страны нужно, и каждому мужчине необходимо.

Подготовил Александр РАУТЕНКО

# «Химик» в тринадцатом

Закончился очередной, 13-й по счету чемпионат Беларуси по футболу среди команд первой лиги. Каким можно назвать в нем выступление «Химика»? Однозначного ответа на этот вопрос нет. Наша команда временами настолько разочаровывала болельщиков, что впору было терять в нее веру. Но были и звездные моменты, когда игра футболистов отвечала самым высоким требованиям. Вот так и «качались» весь чемпионат, словно на качелях. В результате – седьмое место. Думается, для болельщиков команды будет интересна итоговая статистика выступлений «Химика» в прошедшем чемпионате.

**Кто играл**

Всего за «Химик» в этом сезоне в 30 матчах играли 22 игрока, из них 2 вратаря.

*Вратари:*

**Ленцевич** – 23 игры, пропустил 29 мячей (в среднем 1,29 мяча за матч);

**Петухов** – 8 игр (10 мячей, в среднем 1,25 мяча за игру).

**Шиханцов** пропустил все матчи.

*Защитники:*

**Малахов** – 27 игр, 2 предупреждения (п); **Дьяченко** – 25 игр, 2 п.; **Красюк** – 23 игры, 5 п.; **Джафаров** – 23 игры, 5 голов (г), 2 п., 1 удаление (у); **Погоцкий** – 19 игр, 1г., 4 п.; **Сысой** – 13 игр, 3п.; **Куприков** – 5 игр, 1 г.; **Журавлевич** – 2 игры; **Афанасевич** – 11 игр, 4 п.

*Полузащитники:*

**Шелухин** (капитан) – 30 игр – все без замен, 6 голов (2 с пенальти), 4 п.; **Жданович** – 30 игр, 1 г., 2 п.; **Панченко** – 24 игры, 2 г (1 с пенальти), 3 п., 1 у.; **Размыслович** – 22 игры, 3 г. (2 с пенальти); **Цубар** – 12 игр; **Тороп** – 20 игр, 2 г., 1 п.; **Власенко** – 2 игры.

*Нападающие:*

**Улезло** – 30 игр – все без замен, 15 голов, 2 п.; **Головач** – 28 игр, 2 г.; **Сидоренко** – 14 игр, 2 г., 2 п.; **Таран** – 14 игр, 2 г., 1 п.

Игроки команды за сезон получили 40 предупреждений, из них ровно половину в домашних матчах и столько же в гостях. Двух «химиков» удалили с поля, причем оба раза на выезде.

**Как играли**

В 15 домашних матчах «Химик» 9 раз праздновал победу, трижды терпел поражения и трижды расходился с соперником мирно. Соотношение мячей при этом 24 - 14, набрано 30 очков (почти 75% из всех добытых в чемпионате).

В гостях нашим футболистам везло меньше: всего 4 победы, столько же ничьих и 7 поражений. Забито 18 голов, пропущено 25, набрано 16 очков.

В 30 матчах «Химик» лишь однажды победил с крупным счетом – 3:0, обыграв ФК «Лида».

Зато потерпел три поражения с крупным счетом: два от минского «МТЗ-РИПО», причем одинаково – 1:4, и одно от «Динамо-Юни» (Минск) – 0:4.

Несмотря на скромное место в турнирной таблице, «Химик» сумел проявить себя волевой командой: трижды команда побеждала, когда первыми пропускали гол. Но и три раза проигрывали, когда забивали первыми.

В 6 матчах светлогорцы не пропустили ни одного мяча, и в 6 матчах не смогли забить.

**Зрители**

Игры «Химика» посетили 77 200 зрителей – результат, которым могла бы гордиться любая команда высшей лиги. Это один из лучших результатов прошедшего чемпионата Республики во всех лигах. В среднем, на игре светлогорской команды присутствовало 2573 болельщика.

В Светлогорске игру команды посмотрели 59 200 человек (в среднем 3946 за игру), в гостях – ровно 18 000 человек (1200 за игру).

Игорь МИХЕЕНКО

З гісторыі раёну

# Мінская губерня і яе народная творчасць

## у сувязі з апісаннем народных свят і абрадаў

Аляксандр ШЫМАНОЎСКІ

*Старонкі фальклорна-этнаграфічнага зборніку. Публікуецца ўпершыню. Аўтар - ураджэнец вёскі Чэрнін нашага раёну. (Працяг. Пачатак – у № 47.)*

Вось гэта і было галоўным штуршком да таго, каб мусіла нарадзіцца думка сабраць усё, што засталося яшчэ і што пачынае забывацца. Пладом гэтага і з'явіўся гэты зборнік.

Паварот у жыцці мінчука асабліва яскрава пачаў заўважацца з таго часу, як пачалі праводзіць уздоўж і ўпоперак Мінскай губерні чыгунку, якія спрыялі больш шчыльным сувязям з такімі цэнтрамі, як Масква, Санкт-Пецярбург, Кіеў і іншыя, і такім чынам прыстасавалі гэты адасоблены край да ўдзелу ў агульнадзяржаўным развіцці рускага народа, калі справа народнай адукацыі пачала больш глыбока пускаць свае карані, рабіць сурёзныя поспехі на шляху збліжэння края з агульнадзяржаўнымі цэнтрамі духоўнага жыцця рускага народа. Трэццю галоўную прычыну разумовага і маральнага росту беларуса складае ўсеагульная вайсковая павіннасць. Вось галоўная прычына таго, што беларус ўсё больш і больш пачынаў прыходзіць да зліцця з агульнарускаю вялікаю сям'ёй, пачынаў адчуваць сябе адзінокім сярод іншых народнасцей свайго краю, якія адрозніваліся ад яго верай і мовай. Гэты ўздым рускага духу, гэта узмацненне свядомасці сваёй кроўнай і верасправядальнай роднасці з карэннай Руссю заўважаліся заўсёды, амаль з кожным новым прыездам штогод на летнія канікулы. Каб лягчэй было чытачу разабрацца ў значнай колькасці сабраных песень, звычаяў, абрадаў, у зборніку зроблена спроба згрупаваць увесь матэрыял, паклаўшы ў аснову пэўную ідэю, узятую з таго ж жыцця. Гэтым складальнік імкнуўся аб'яднаць разналікі матэрыял і палегчыў працу ў вывучэнні яго.

Пры запісванні песняў і іншага збіральнік стараўся дакладна перадаць усе фанетычныя асаблівасці, а дзе ясна была заўважана гукавая барацьба, там яна дакладна адзначана. Ёсць песні, дзе беларуская фанетыка саступае вялікарускай. Пры гэтым лічу доўгам выказаць сваю ўдзячнасць наступным асобам за тое садзеянне, якое яны мне аказалі ў маёй працы: Рыгору Шыманоўскаму, Пелагеі Нікіфараўне Густавай І Сямёну Друзіку, колішняму вучню Чэрнінскай народнай школы.

*1898.*

*(Працяг будзе.)*

# Знаходкам – 5 тысяч гадоў

**Захоўваюцца яны ў сярэдняй школе вёскі Хутар (Баравікоўскі сельскі Савет).**



*На здымку: гэтыя сякеры выраблены рукамі нашых далёкіх продкаў.*

Мясцовы настаўнік гісторыі – Іван Сямёнавіч Філіпчык – з году ў год збіраў старажытныя каменныя сякеры, якія тутэйшыя жыхары выпадкова знаходзілі ў зямлі. У выніку сабралася рэдкая калекцыя, якая цяпер выстаўлена ў кабінеце гісторыі. (Падобных экспанатаў няма нават у Музеі гісторыі гораду.)

Настаўнік класіфікаваў сякеры па тыпу – сярод іх ёсць як гаспадарчыя, так і баявыя, а таксама вызначыў прыкладны ўзрост знаходак. Такім чынам, школьнікі, вывучаючы далёкае мінулае, могуць убачыць сапраўдныя старажытнасці, узрост якіх – да 5-ці тысяч гадоў.

Сёлета з калекцыяй азнаёмілася старшая навуковая супрацоўніца аддзела археалогіі жалезнага веку Інстытута гісторыі Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук Наталля Дубіцкая (г. Мінск). На меркаванне археолага, такія калекцыі ў школах – найлепшы сродак пры вывучэнні старажытнай гісторыі, а настаўнікі, якія займаюцца зборам і захаваннем археалагічных знаходак, заслугоўваюць падзякі і заахвочвання.

Тэльман МАСЛЮКОЎ

# Цены на продукты на рынке «Юбилейный»



| | 11.11.2003 | 18.11.2003 |
|---|---|---|
| Мука в/с, 1 кг | 650 | 650 |
| Горох, 1 кг | 650 | 600 |
| Гречка, 1 кг | 1300 - 1500 | 1300 - 1500 |
| Манная крупа, 1 кг | 780 | 780 |
| Пшено, 1 кг | 1200 | 1200 |
| Рис, 1 кг | 850 - 1300 | 900 - 1300 |
| Макароны, 1 кг | 730 - 1000 | 800 - 1000 |
| Сахар, 1 кг | 1310 | 1310 |
| Кофе раств., 100 г | 2100 - 3700 | 2100 - 3700 |
| Масло растит., 1л | 2000 - 2600 | 2000 - 2600 |
| Майонез, 500 г. | 1150 - 1950 | 1150- 1950 |
| Яйца куриные, 1 дес. | 1400 - 1600 | 1350 |
| Говядина, 1 кг | 4800 - 5900 | 4800 - 5900 |
| Свинина, 1 кг | 4200 - 6500 | 4200 - 6500 |
| Сало копч.,1 кг | 5000 - 6500 | 5000 - 6500 |
| Куриные окорочка, 1 кг | 4500 | 4500 |
| *Колбасы:* вареные, 1 кг | 3300 - 6500 | 3300 - 6500 |
| копченые, 1 кг | 6700 - 15050 | 6700 - 15050 |
| Сосиски, 1 кг | 2800 - 5300 | 2800 - 5300 |
| Рыба св./мор., 1 кг | 1200 - 5200 | 1800 - 5200 |
| Рыба сол. в банках | 3900 | 3800 |
| Рыба живая, 1 кг | 2800 | |
| Картофель, 1 кг | 200 | 250 |
| Капуста, 1 кг | 200 | 200 |
| Лук репч., 1 кг | 1000 | 1000 - 1200 |
| Помидоры, 1 кг | 1900 | 1900 |
| Арбуз, 1 кг | 350 - 500 | 800 |
| Грейпфрут, 1 кг | 3200 | 3200 |
| Виноград, 1 кг | 2300 - 3200 | 2300 - 3200 |
| Гранат, 1 кг | 3000 - 4500 | 3000 - 4500 |
| Апельсины, 1 кг | 2200 | 2100 - 2500 |
| Лимоны, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Мандарины, 1 кг | 3000 | 2700 - 3000 |
| Хурма, 1 кг | 2100 - 4000 | 2100 - 4000 |
| *Крестьянские продукты:* | | |
| Картофель, 1 кг | 200 | 250 |
| Морковь, 1 кг | 200 | 250 |
| Свекла, 1 кг | 250 | 250 |
| Груши, 1 кг | 2300 | 3000 |
| Яблоки, 1 кг | 1500 - 2000 | 1500 - 2000 |
| Мед, 1 л | 20000 | 20000 |

Подготовила: Евгения ПОПЛАВСКАЯ

Пішуць чытачы

# Ці сушыць сабе сухары?

## Альбо ці пісаць газеце пра ўздаражанне хлеба, рост квартплаты...

**Хачу адзначыць, што допіс Барыса Янушэвіча "Не сушыце сабе сухары" выклікаў у мяне павагу да аўтара. Павагу за тое, што чалавек не пакінуў актуальную публікацыю без увагі, не паленаваўся выказаць сваё меркаванне, хоць яно і не супадае з думкаю рэдакцыі.**

Але з агульным тонам нататкі пагадзіцца не магу. Супраць чаго пратэстуе аўтар? Супраць таго, што газета напісала пра павышэнне цэн на хлеб. І назвала імёны тых, хто прыняў такое рашэнне. Але ж прэса для таго і існуе, каб даносіць да людзей праўду, з фактамі і імёнамі, нягледзячы на тое, што камусьці з чыноўнікаў гэта не да спадобы.

**Што станецца з газетай,** калі ў ёй не будзе інфармацыі пра павышэнне цэнаў на хлеб, на камунальныя паслугі, пра фактычны развал сістэмы медыцынскага абслугоўвання? Пра тое, за чые грошы ладзіўся шыкоўны банкет для начальства на Дзень гораду? Пра тое, што плошча перад раённым выканаўчым камітэтам замошчана новай пліткай, у той час як будынак Дома дзіцячай і юнацкай творчасці 3 гады ўжо разбураецца без рамонту, а улады гэтага "не бачаць"? І пра тое, што рэканструкцыю Цэнтральнай плошчы горада рабіла фірма з Баранавічаў, у той час, як работнікі мясцовага будаўнічага трэста № 20 былі без працы?

Тады незалежная газета, ў даным выпадку "Рэгіён-весткі", нічым не будзе адрозніваццa ад афіцыйных выданняў, у якіх вострыя пытанні не ўздымаюцца. Б. Янушэвіч клапоціцца пра тое, каб "Рэгіён-весткі" прадавалі ў вясковых магазінах. Але ці патрэбна будзе такая газета чытачам?

**Старшыня раённага** выканкама Баляслаў Пірштук забараніў прадаваць газету ў сёлах не таму, што там не купіць нейкі вышэйшы начальнік. Паверце: незалежныя газеты ўважліва чытаюць і аналізуюць шматлікія службы, якія своечасова дакладаюць куды трэба пра ўсе публікацыі. Кіраўнікі мясцовай "вертыкалі" не да спадобы тое, што аб праблемах раёна наогул нехта піша, а нехта чытае. Кіраўнікі ведаюць пра тыя паказальныя "зачысткі", якія час ад часу робяцца ў іх шэрагах. І баяцца трапіць, як кажуць у паўкрымінальным свеце, "пад раздачу". Таму і забаронена мясцовым друкарням Гомельшчыны друкаваць "Рэгіён-весткі".



*На здымку: плошча перад раённым выканаўчым камітэтам замошчана новай пліткай, а будынак Дома дзіцячай і юнацкай творчасці 3 гады ўжо разбураецца без рамонту.*

Абсалютна згодзен з Вамі, паважаны спадар Янушэвіч, і ў тым, што выканкамы разагнаць мы не можам. У любым грамадстве улада павінна быць! Згодзен, што сярод работнікаў выканкамаў нямала сумленных, працавітых людзей. Але існуючая сістэма, як і ранейшая – камуністычная - перарабляе іх у маўклівых выканаўцаў загадаў. А хто не паддаецца – тых выкідвае, ды яшчэ і помсціць.

**Рэканструкцыю Цэнтральнай плошчы горада рабіла фірма з Баранавічаў, у той час, як работнікі мясцовага трэста № 20 былі без працы.**

Калісці я працаваў побач з сумленным чалавекам. Абодва мы ды нашыя калегі разам і адпачывалі, і чарку не адну кульнулі. Ды вось лёс падняў майго калегу ў высокае кіруючае крэсла. Зайшоў я да яго ў кабінет па нейкай справе. А тут звоніць яму больш высокі начальнік. І мой колішні калега груба выстаўляе мяне з кабінета, каб, не дай Бог, не пачуў, пра што яны гавораць. Хоць мог папрасіць выйсці далікатна і тактоўна... Гэта я да таго, што робіць існуючая сістэма з сумленнымі людзьмі.

**А змяніць гэтую сістэму** можна толькі адным спосабам: зрабіць кіраўнікоў гарадоў і раёнаў выбарнымі. І падсправаздачнымі перад людзьмі, якія іх выбралі. Тады ім будзе далёка не ўсё роўна, што пра іх думаюць людзі і што пра іх справы пішуць газеты.

Мы, нераўнадушныя грамадзяне, не павінны спакойна назіраць, як хтосьці з чыноўнікаў спрабуе перашкаджаць няўгодным для іх газетам, ліцэям, прыватным фірмам... Трэба рашуча, узважана і граматна пратэставаць супраць гэтага, ужываючы ўсе законныя метады. Адным з такіх метадаў і з'яўляецца своечасовае, аб'ектыўнае інфармаванне грамадзян, што і робіць газета "Рэгіён-весткі".

Вадзім БОЛБАС

# «Хватит быть добренькими»

(Окончание. Начало на стр. 1.)

страны в 2001г., Лукашенко сорвался: «Мы же налево и направо раздаем льготы и преференции... Объем налоговых и таможенных льгот за год вырос в 1,7 раза и достиг 270 млрд. рублей. Правительство и министры уж очень хотят быть добренькими. Хватит! Желаете - пожалуйста, будьте, но только не за государственный счет. Мы же договорились отойти от старой практики и в случае крайней необходимости оказывать финансовую поддержку из бюджета», - заявил Лукашенко.

Кто тогда вспомнил, каким «добреньким» был августовский указ самого президента, порадовавший студентов перед выборами! Президент, пришедший к власти благодаря льготам, говорил уже по-другому: «Даже самые богатые государства мира не могут позволить себе, чтобы число льготников превышало количество трудоспособных граждан, а небогатая Беларусь, видите ли, может». При этом Лукашенко признавал, что даже при прежних объемах льгот получали их далеко не все нуждающиеся: «Самое возмутительное состоит в том, что одновременно те, кто действительно нуждаются в помощи, не всегда получают ее вовремя и в нужном объеме».

**«Опасные настроения иждивенчества»**

18 октября 2002 г. о необходимости отмены льгот заговорил уже не сам Лукашенко, а председатель КГК Анатолий Тозик. На семинаре руководящих работников республиканских и местных государственных органов Тозик сообщил о наметившемся «обострении» проблемы льготного обеспечения населения. «Проверки Комитета госконтроля показали многочисленные нарушения в этой сфере и вскрыли факты, когда бесплатные рецепты на лекарства выписывались на умерших людей», - констатировал глава КГК. По его информации, в стране имеют право на льготный проезд на транспорте 5 млн. 300 тыс. человек, из-за чего потери бюджета в 2002 г. составят 103 млрд. рублей. Главный контролер страны сказал, что, отменив бесплатный и льготный проезд, можно будет сделать общественный транспорт в стране бездотационным без повышения цен на билеты.

Глава КГК заявил о проявлении в стране «опасных настроений иждивенчества». По его словам, в республике насчитывалось 127 тыс. безработных, 59 тыс. из которых получают пособие по безработице: «Думаю, что мы вправе сегодня предложить неработающему любую работу. А если он дважды откажется от предложения, то потеряет статус безработного».

**Под ружье - и в регионы**

Вслед за Анатолием Тозиком заговорил об урезании льгот и режиме экономии и Александр Лукашенко. На этот раз его выступления были окрашены в пронзительные тона обиды на Россию. Он как бы укорял Кремль, призывая своих граждан к воздержанию в использовании тепла и воды. 11 ноября 2002 г. президент высказался в том духе, что ему в Беларуси ничего не принадлежит, а за долги предстоит рассчитываться правительству и непосредственно населению. А потому он предложил перейти к строжайшей экономии «вплоть до полного возврата долгов России».

Поскольку население не сразу поняло, что такое воздержание в использовании тепла и воды, 19 ноября президент конкретизировал: «Всех министров поставить под ружье. Пусть едут в регионы и смотрят, вплоть до того, есть ли пленки на дверях...»

В апреле 2003 г. Лукашенко вновь заговорил о войне с льготниками. Во время его ежегодного послания депутатам в ПП НС прозвучали уже принципиально новые цифры и еще более жесткие оценки. Лукашенко заявил: «Льготы получают 7 млн. человек. Льготников в стране в 1,2 раза больше, чем населения трудоспособного возраста. Это уже не общество социальной справедливости, а полный тупик для его производственной и производительной части». Объясняя необходимость отказа от льгот, президент указал на следующее: привилегии были установлены Советской властью, однако сейчас источники их финансирования уже не существуют. Следовательно, надо идти на непопулярную меру.

**«Не надо пугать людей»**

Пришел июнь, заговорили о референдуме по вопросу третьего президентского срока. 20 июня в Бресте прошел семинар руководящих работников. Выступление на нем Лукашенко обезоруживало своим полным несоответствием всему тому, что говорилось еще в апреле. Куда подевалась «чрезвычайщина», что стало с призывами к жесточайшей экономии? Президент вновь говорил об обществе социальной справедливости, об экономической стабильности и нашем достатке: «Не надо пугать людей, чтобы они затягивали пояса, - в Республике достаточно средств, которые всегда в приоритетном порядке будут направляться на социальные нужды».

С тех пор разговоры о референдуме поутихли. Власть определилась с тем, что проводить плебисцит до конца года не будет. Изменились и высказывания главы государства на тему льгот и экономии. Нам уже не сулят социальной справедливости, напротив, тихо проводят сокращение льгот. 7 ноября, выступая в Житковичах, президент назвал «бережливость» составной частью нашей экономической политики.



*Ну что, съели!*

Теперь, когда до выборов и плебисцита еще далеко, это можно себе позволить. Но пройдет время, приблизится очередное судьбоносное голосование, и народ вновь будет одарен несгибаемыми льготами. В конце концов, на выборах побеждает именно «добренькая» власть.

Родион РАСКОЛЬНИКОВ

1 декабря – Всемирный день профилактики СПИДа

# Город для сильных личностей

## Тень Левиафана*

**Беда пришла внезапно и незаметно. Никто не увидел ее тихое проникновение в город. Ведь никто тогда не знал, что это - беда.**

Когда же все началось? Кажется, в начале 80-х. В молодой и красивый город Светлогорск пришло горе — кто-то привез рецепт приготовления наркотика.

Откуда появился этот рецепт, сегодня уже никто не помнит. Говорят, завезли его к нам местные ребята-студенты из вполне обеспеченных семей - то ли из России, то ли из азиатских республик бывшего СССР. Ужасно то, что кто-то увидел себя в роли "законодателя новой моды". Разве можно было предположить тогда, в 80-х, во что выльется маленькая "забава" кучки искателей острых ощущений из поколения молодых.



В начале 80-х никто не подозревал, что молодой и красивый город ожидают серьёзные испытания.

**Это было счастливое,** спокойное и благополучное время. Еще никто не знал о предстоящих экономических потрясениях с обесцениванием рублей, ликвидацией СССР и ростом преступности. Пусть себе порезвится молодежь. Чего в молодости не бывает. Перебесится да и возьмется за ум.

Но "игрушка" оказалась не такой простенькой, как казалось. В Светлогорске появились первые серьезные наркопотребители. Никто из них и не задумывался, что их ждет в будущем.

Первые наркопотребители не боялись, что могут «сесть на иглу». От этого рецепта, утверждали они со знанием дела, «на иглу» не «сядешь». И действительно, наркотики, которые изготавливали наркоманы, были не настоящие (медицинские), а всего лишь «слабенький дурман», выжатый из мака. Разве знал раньше человек, что из этого красивого растения можно приготовить беду? А из конопли наши предки шили белые одежды.

**Появление в городе** первых «ловящих кайф» людей в среде молодежи было воспринято с любопытством. Рассказы наркоманов об испытанных ощущениях у кого-то вызывали ужас, у кого-то - желание попробовать и испытать на себе, что это такое. "Знаешь, — говорил мне в то время знакомый, обитающий в среде наркоманов, — ощущения испытываешь такие, что раз в сто приятней, чем переспать с женщиной". Но были и другие «впечатления»: об увиденных отделяющихся частях собственного тела и полетах по воздуху. Во время действия наркотиков возникали сильные галлюцинации, в которых можно было увидеть самые жуткие картины. Это была реальность наркотического виртуального мира, где нет никаких проблем, забот и суеты, и многие попадали в ее сети. Еще мало кто понимал, что манящее окно в другой мир — это всего лишь очень короткий путь, в конце которого наступает конец человека.

**И кто-то сообразил:** раз на наркотики появился спрос, то почему бы не зарабатывать на этом деньги, организовав доставку товара к месту. Где-то в середине 80-х в городе появились первые наркокурьеры и наркоторговцы. И пока общество не поняло, что такое наркомания, товар беспрепятственно доставлялся поездами к своему месту назначения. Ряды наркопотребителей росли, словно на дрожжах. Наркомания в какой-то момент стала модной и авторитетной. А наркоманы причислялись к "элитной" молодежной среде. Наркопотребители «кучковались» в стайки, добывая себе "кайф". Кто-то готовил еду, кто-то покупал или воровал у ни о чем не подозревающих жителей на дачах мак, заготавливая "бошки" и "ханку" на целый год. А когда мак запретили выращивать в районе, ездили в другие районы, высаживали в диких, малодоступных местах. Когда и это стало невозможным, остался один канал — покупать дозу у торговцев наркотиками.

Привезенный в город когда-то рецепт приготовления наркотиков из маковых головок стал вовсе не безобидным. Зависимость приходила с годами и стажем. В городе появились первые «подсевшие на иглу». И даже в этот тревожный момент среди наркоманов находились те, которые насмехались над начинающими «колоться»: "Если тебя еще не ломает, значит ты не настоящий нарик."

На мутной темно-коричневой жидкости вырастал новый тип "человека": безразличный, апатичный, заторможенный, испытывающий потребность только в трех вещах: «колоться», есть и спать. В семьях, где появлялся наркоман, все куда-то испарялось — выносилось из дома и продавалось за бесценок. Деньги превращались в «кайф». Тень Левиафана вошла в город.

Олег БЕЛЫЙ

* Левиафан – в Библии: огромное морское чудовище; в переносном смысле: нечто огромное и чудовищное *(прим. ред.)*.

*(Окончание следует.)*

# Моё мнение
## о запрете на продажу газеты

**Я ранее покупал газету "Регион-вести" от случая к случаю. Но когда узнал о запрете продавать газету в сельских магазинах, то решил покупать её постоянно. Такое же мнение слышал от других людей.**

Мне газета нравится. А руководителям района, от которых зависит рост цен, и в том числе председателю районного исполнительного комитета Болеславу Пирштуку, я бы хотел пожелать, чтобы они хорошо отдохнули. То есть предоставить им хороший отпуск хотя бы на один год, с выплатой ежемесячно от ста до ста пятидесяти тысяч рублей. (Столько получают многие люди, особенно на селе.) Чтобы они из этих денег платили коммунальные услуги, питались, одевались и т. д.

Владимир БОГДАНИК

# Няўжо жыццё такое шэрае?

**Бачыла перадапошні нумар газеты. Не крыўдуйце, але не знайшла там нічога цікавага.**

Мне здаецца, што калі б было больш навін, нейкіх цікавых здарэнняў, то і чытачоў было б больш. Няўжо ў нашым горадзе нічога не здараецца? Няўжо жыццё такое шэрае? Няўжо нельга нічога прыдумаць?

Прабачце, але, як кажуць, горкая праўда лепш салодкага падману.

Агафія ЯФРЭМЧЫК

Планета

# Буйнейшыя гарады свету.



| | Насельніцтва (млн. чал.) | Краіна | | Насельніцтва (млн. чал.) | Краіна |
|---|---|---|---|---|---|
| Токіо | 25,8 | Японія | Мумбаі | 13,3 | Індыя |
| Сан-Паўлу | 19,2 | Бразілія | Буэнас-Айрэс* | 11,8 | Аргенціна |
| Мехіка | 16,6 | Мексіка | Сеул | 11,6 | Карэя |
| Нью-Йорк | 16,2 | ЗША | Пекін | 11,4 | Кітай |
| Шанхай | 14,1 | Кітай | Рыа-дэ-Жанэйра | 11,3 | Бразілія |

Пішуць чытачы

# Кожную раніцу мы выходзім з дому...
## І бачым адно і тое ж.

Знявечаны ліфт, цёмны пад'езд, убогі двор, разбітую дарогу і перапоўненны прыпынак у самым нязручным месцы мікрараёна. За шмат год многія з нас звыкліся з думкай, што так было, ёсць і будзе, і нічога змяніць проста немагчыма. Вы прывыклі і прыстасаваліся - як усе, і збянтэжана глядзіце на дзівакоў, што трацяць намаганні, спрабуючы хоць нешта змяніць у лепшы бок. У Вас хапае іншых турбот – цэны растуць, а зарплата застаецца былой. І ўжо працуючы ў некалькіх месцах, не хапае сродкаў утрымліваць сям'ю. Хвалебныя прамовы і радасныя рапарты па тэлебачанні аб павышэнні ўзроўню жыцця, напісаныя палітыкамі-фантастамі, (хоць на што здольныя!), выклікаюць нават не раздражненне, а ўхмылку.

Чалавек уладкаваны так, што можа прыстасавацца да розных умоваў жыцця. Шматлікія няшчасці, што падалі на нашу зямлю, беларускі народ цярпеў па-геройску: вайну, пасляваенныя разбурэнні, гады дэфіцыту і застою, Чарнобыльскую трагедыю, блытаніну і хаос дзевяностых, і стагнацыю апошніх гадоў.

Здавалася, што ўжо горш быць не можа, але зноў і зноў улада выдумляе новыя спосабы ашукаць, абкрасці і зняважыць. Вы да ўсяго прывыклі, аднак часам скрозь стомленую свядомасць прарываецца заканамернае пытанне: "За што?" І тады ўспамінаюцца розныя палітычныя прызывы да барацьбы. З экрана дзяржаўнага тэлебачання заклікаюць змагацца з "ворагамі", з апазіцыяй, "шкоднікамі", "іншаземнымі шпіёнамі". Апазіцыйныя газеты і радыё клічуць змагацца з рэжымам.

На жаль, аўтары гэтых заклікаў часта ў першую чаргу непакояцца за сябе. Дык можа, час ужо выйсці з "летаргічнага сну" і змяніць што-небудзь у сваім жыцці?

Наталля КУНІЦКАЯ

